ПРЫ ПАДТРЫМЦЫ ПАГА «РУХ «ЗА СВАБОДУ»

# EUROКЛУБ

ДАДАТАК ДА ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНАГА БЮЛЕТЭНЯ «ДЗЕДЗІЧ»

№02 (05) • ЛЮТЫ 2012



# ГІСТАРЫЧНА СКЛАЛАСЯ...

**Міністэрства культуры заявіла пра неабходнасць папулярызацыі беларускай мовы. У Беларусі «няма моўнага пытання», лічыць намеснік міністра культуры Тадэвуш Стружэцкі.**

«ГІСТАРЫЧНА ТАК СКЛАЛАСЯ, ШТО БОЛЬШАЯ ЧАСТКА НАСЕЛЬНІЦТВА НЕ ВЫКАРЫСТОЎВАЕ АБО ВЫКАРЫСТОЎВАЕ РЭДКА РОДНУЮ МОВУ»,

— заявіў Стружэцкі 16 лютага падчас круглага стала «Папулярызацыя беларускай мовы: сучаснасць і перспектывы» ў Менску.

У сувязі з гэтым, адзначыў намеснік міністра, «неабходны намаганні грамадства, скіраваныя на захаванне, папулярызацыю беларускай мовы».

«ДЛЯ МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ МОЎНАГА ПЫТАННЯ НЯМА. ІНШАЯ СПРАВА, ЯК ЧАСТА ВЫКАРЫСТОЎВАЕЦЦА БЕЛАРУСКАЯ МОВА Ў ШТОДЗЁННЫМ ЖЫЦЦІ. ЯЕ НЕАБХОДНА ПАПУЛЯРЫЗАВАЦЬ»,

— сказаў Стружэцкі.

Паводле яго слоў, уся сістэма дзейнасці Міністэрства культуры «скіравана на падтрымку і папулярызацыю беларускай мовы».

«Я магу пацвердзіць канкрэтнымі прыкладамі: уся заканадаўчая і нарматыўная база ў сферы культуры прынята на беларускай мове — гэта прынцыповы падыход. Калі да нас звяртаюцца на рускай мове, мы, з улікам двухмоўя, безумоўна, вядзем перапіску на рускай мове», — сказаў ён.

Стружэцкі заўважыў, што вонкавае афармленне, таблічкі з назвамі ва ўстановах культуры і нават унутраная дакументацыя вядуцца ў асноўным на беларускай мове. «Хаця можна прывесці прыклады і іншыя.

І ГЭТА НЕ ЛАГІЧНА, КАЛІ МЯСЦОВАЯ БІБЛІЯТЭКА АБО ВЯСКОВЫ КЛУБ АБАЗНАЧАНЫ НА РУСКАЙ МОВЕ»,

— лічыць намеснік міністра. Пры гэтым Стружэцкі падкрэсліў:

«У НАС РОЎНЫЯ АДНОСІНЫ І ДА БЕЛАРУСКАЙ, І ДА РУСКАЙ МОВЫ. МЫ НЕ ПРАЯЎЛЯЕМ ТУТ НЕЙКУЮ НЕПАВАГУ».

Ён упэўнены, што абсалютная большасць жыхароў Беларусі «ведаюць беларускую мову і гатовы яе выкарыстоўваць, але ў канкрэтных сітуацыях яны гэта не робяць».

«Мы павінны даваць стымулы, каб дапамагаць ужыванню беларускай мовы.

МЫ БУДЗЕМ З КОЖНЫМ ДНЁМ ПАДЫХОДЗІЦЬ ДА СІТУАЦЫІ, КАЛІ БЕЛАРУСКАЯ МОВЕ СТАНЕ ШТОДЗЁННЫМ АТРЫБУТАМ НАШАГА ЖЫЦЦЯ»,

— сказаў намеснік міністра культуры.

**Паводле: nn.by**

## У НУМАРЫ:

# БЕЛАРУСЬ ВАЧЫМА ВАЛАНЦЁРА З АЎСТРЫІ

**Якой убачыў Беларусь малады валанцёр з Аўстрыі, што такое валанцёрства і як маладым беларусам паехаць у іншую краіну бясплатна? Уражанні, ідэі, новыя магчымасці і карысныя спасылкі – чытайце і знаходзьце далей!**




Малады фатограф і валанцёр Максіміліян Розэнбергер апынуўся ў Беларусі дзякуючы праграме Еўрасаюза «Еўрапейская валанцёрская служба» (ЕВС). Мы распыталі яго пра ўражанні ад сінявокай і маладых беларусаў, а таксама папрасілі расказаць, як паездзіць па розных краінах бясплатна, знайсці новых сяброў і адшукаць сваё «Я».

**МАЯ МЭТА – ДЗЯЛІЦЦА ДЫ ВУЧЫЦЦА**

**— Макс, як сталася, што ты апынуўся ў Беларусі? Якое галоўнае ўражанне ад нашай краіны?**

— Я абраў Беларусь, таму што быў звязаны з гэтай краінай у сваім мінулым. Мяне вельмі ўразіла адрозненне гэтага краю ад майго маленькага сусвету. Гэта цалкам іншы свет, які дае вялікі ўнёсак майму простаму і утульнаму жыццю ў Аўстрыі. Знаходзіцца тут, у Беларусі, ды пазнаваць яе – гэта вымушае мяне расці. Таму што тут цалкам іншае жыццё, людзі думаюць па-іншаму, штодзённыя рэчы іншыя.

Менавіта таму мне так цікава вывучаць гэтую культуру, гэты шлях жыцця. Гэта галоўная нагода, чаму я вырашыў правесьці тут больш часу з падтрымкі ЕВС.

Што мне асабліва падабаецца: людзі, якіх я сустракаю ў прыватным жыцці, сапраўды адкрытыя. Беларускія сем'і адкрытыя да замежніка – яны глядзяць на цябе і ўпускаюць у сваё жыццё.

У маёй краіне такога больш не існуе. І гэта зрабілася маім самым вялікім уражаннем тут! І яшчэ тут столькі прыгожых дзяўчат, паўсюль!

**— Што ты робіш у Беларусі, чым займаешся?**

— Мэта майго знаходжання ў Беларусі – дзяліцца ды вучыцца. Я хачу быць валанцёрам, мне падабаецца працаваць дзеля ідэі, а не дзеля грошаў.

Мой праект у межах ЕВС – гэта валанцёрская праца ў Менску, у моладзевым цэнтры "Фіяльты". Тут я ладжу воркшопы для моладзі па нямецкай мове (для пачаткоўцаў) і па фота.

Заняткі нямецкай вельмі цікавы праект, таму што я выкарыстоўваю невербальныя тэхнікі камунікацыі, якім я навучыўся падчас сваіх вандровак. Ты можаш сказаць даволі шмат з дапамогай цела, жэстаў, мімікі, з дапамогай малюнкаў і гэтак далей.

Іншы праект, які яшчэ распрацоўваецца – воркшоп па фатаграфаванні. Я хачу стварыць крэатыўную каманду, каб падумаць аб каштоўнасцях грамадства і сапраўды зразумець іх. Вынікам павінен стаць фотаальбом, які паспрабуе даць адказ на пытанне "што такое валанцёрства", "каштоўнасці грамадства".

**— Як адбылася твая сустрэча з Моладзевым адукацыйным цэнтрам "Фіяльта"?**

— Я знайшоў гэты цэнтр, калі ўжо знаходзіўся тут і шукаў арганізацыю, дзе я змог бы працаваць. Я запытаўся ў Аўстрыі: "Як наконт ЕВС? Вы маглі б адправіць мяне сюды, у Менск?" Мне адказалі: "Так, калі ў цябе ёсць праект".

Хачу сказаць, што існуе вялікая колькасць магчымасцяў, і адна з іх – Еўрапейская валанцёрская служба!

Ты прыходзіш да іх і пішаш матывацыю, чаму табе цікава быць валанцёрам. Далей ты трапляеш у базу дадзеных, дзе можаш выбіраць, шукаць рознага кшталту праекты: сацыяльныя, культурніцкія, па ахове здароў'я альбо нешта іншае. Ёсць магчымасць пошуку па краінах і пасля па праектах.

Вялікі спіс паказвае ўсе існуючыя праекты. Ты можаш паехаць на два месяцы альбо на год – гэта максімум. Калі ж ты хочаш паехаць за межы Еўразвязу – табе трэба знайсці праект і кантактных асобаў, якія маюць акрэдытацыю ў ЕВС.

Партнёрскія краіны, такія як Беларусь, Украіна, Грузія, Расея ажыццяўляюць невялікія праграмы на сваёй тэрыторыі, якія таксама акрэдытаваныя з боку ЕВС. Таму яны маюць права запрашаць замежных валанцёраў ці ладзіць абмены.

**КАЛІ ВАС ЦІКАВІЦЬ, "ШТО ЁСЦЬ ЖЫЦЦЁ" – АДПРАЎЛЯЙЦЕСЯ ЗА МЯЖУ І ДАВАЙЦЕ ПАГЛЯДЗІМ!**

**— Што такое Еўрапейская валанцёрская служба (ЕВС)? Як яна працуе і якія існуюць праграмы ў розных краінах?**

— Еўрапейская валанцёрская служба – гэта частка вялікай праграмы, якая мае назву "Youth in action" (http://ec.europa.eu/youth/youth-in-action-programme/european-voluntary-service_en.htm) і ажыццяўляецца Еўрапейскай Камісіяй.

Гэта праграма створана, каб даць маладым людзям ва ўзросце ад 18 да 30 гадоў магчымасць пазнаёміцца з іншымі культурамі Еўропы. Галоўнай мэтай з'яўляецца стварэнне магчымасцяў для мульцікультурнага азнаямлення, каб будаваць Еўрапейскую прастору такім чынам.



Ты можаш працаваць у праектах рознага кшталту: культурніцкіх, сацыяльных, эканамічных, альбо звязаных з аховай здароў'я.

ЕВС створаны, каб даслаць цябе за мяжу, у іншую краіну, а таксама – даслаць прадстаўнікоў іншых краінаў у тваю. Галоўным чынам гэтыя абмены ажыццяўляюцца ў межах Еўразвязу, але гэта таксама працуе для краінаў-партнёраў, што знаходзяцца на межах.

**— Як маладым беларусам паехаць за мяжу ў якасці валанцёра па ЕВС?**

— Маладым беларусам, якія жадаюць паехаць працаваць валанцёрамі па ЕВС у краіны Еўразвяза, трэба знайсці лакальную арганізацыю ў ЕЗ (http://ec.europa.eu/youth/evs/aod/hei_list_from_query.cfm), якая дапаможа ім далучыцца да пэўнага праекту. Пасля трэба звязацца з гэтай арганізацыяй і ў прыватным парадку абмяркоўваць далейшыя крокі.

**— Што ты параіў бы маладым беларусам?**

— Трэба глядзець на сябе і сваё кола. У кожнага ёсць маленькае кола, у якім чалавек жыве ды працуе. Гэта не так шмат людзей, не цэлая краіна – а толькі маленькае кола. І трэба задацца пытаннямі "Чаго я хачу", "Чаго хоча гэта кола" і "Што для нас карысна".

Першым крокам павінна быць смеласць размаўляць адзін з адным, ды казаць свае думкі ўслых тым, да каго ў вас ёсць давер. Другім крокам, канечне, калі ты паразмаўляў ды падумаў – з'яўляюцца дзеянні. Калі ты нічога не робіш – твае думкі і размовы нічога не каштуюць!

Калі ты хочаш нешта змяніць у сваёй сістэме – адпраўляйся за мяжу, ды пабач свет з розных бакоў; калі ты застанешся задаволеным сваёй сітуацыяй – не зменяш нічога.

**ДАВЕДКА**

Еўрапейская валанцёрская служба (ЕВС) – гэта праект Еўрапейскай Камісіі, які дазваляе моладзі ва ўзросце 18-30 гадоў стаць валанцёрамі ў іншай краіне на пэўны тэрмін (звычайна 2-12 месяцаў). Асноўная частка валанцёраў працуе ў сферы аховы навакольнага асяроддзя, культуры, спорта.

Даведацца больш пра Еўрапейскую валанцёрскую службу можна тут: http://ec.europa.eu/youth/youth-in-action-programme/european-voluntary-service_en.htm.

**Фота: Mariam Osman, Maximilian Rosenberger.**

**Гутарыла Алена Крушэўская.**

**Паводле ampby.org**

# КАЛІ ШЭНГЕН ПАТАННЕЕ ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ?

**Што патрэбна, каб "Шэнген" для беларусаў патаннеў? А патрэбна ўсяго ж толькі згода прымаць нелегалаў з ЕЗ!**



Фота: ByMedia.net

Яшчэ летась Польшча прапанавала нашай краіне пачаць перамовы наконт аблягчэння візавага рэжыму з Еўрасаюзам. Але не ўсё так проста, як нам хацелася б, тлумачыць Еўрарадыё прэс-сакратар Міністэрства замежных спраў Беларусі Андрэй Савіных.

**Андрэй Савіных:** "Прапанова аб перамовах пра парадак спрашчэння выдачы віз і, адпаведна, зніжэнне кошту віз, увязваецца Еўрасаюзам з перамовамі па пагадненні па рэадмісіі".

Гэта азначае, што Беларусь павінна пагадзіцца прымаць назад сваіх грамадзянаў, якія знаходзяцца ў ЕС нелегальна і якіх плануюць дэпартаваць. Але ёсць у дамове аб рэадмісіі адзін небяспечны нюанс. Калі праз нашу мяжу ў ЕС трапілі грамадзяне іншых краін, напрыклад, Кітая, то высылаць іх будуць... у Беларусь.

"Таму такія пытанні могуць разглядацца толькі пасля вывучэння меркаванняў усіх зацікаўленых ведамстваў, у кампетэнцыю якіх уваходзяць гэтыя праблемы, – тлумачыць Андрэй Савіных. – Гэта дастаткова сур'ёзныя пытанні, якія патрабуюць глыбокай прапрацоўкі. І, зразумела, гэта замаруджвае любы працэс такога плана".

Беларускі бок непакоіцца, што з Еўрасаюза дэпартуюць вялікую колькасць нелегальных мігрантаў, што, безумоўна, адаб'ецца і на фінансавым становішчы нашай краіны. Да таго ж, Беларусь будзе вымушаная знізіць кошт нашых віз для еўрапейцаў. Мы ж пакуль да гэтага не гатовыя, дадае Савіных.

Дамову аб рэадмісіі ў пакеце з дамовай аб спрашчэнні візавага рэжыму падпісала ў 2008г. наша суседка – Украіна. Прыкладна 5 мільёнаў украінцаў жывуць і працуюць у Еўрасаюзе. Шмат з іх – незаконна.

"Але асаблівай тэндэнцыі па вяртанні іх у парадку рэадмісіі мы не ўбачылі, – расказвае кіраўніца Дэпартамента па справах уцекачоў МУС Украіны Наталля Навуменка. – Як бы там не было, але Еўрасаюз зацікаўлены ў кваліфікаванай працоўнай сіле як з Украіны, так і з Беларусі, і таму яны перыядычна праводзяць міграцыйныя амністыі. Адна з такіх амністый зараз праходзіць у Польшчы. Таму пра нейкія маштабныя лічбы, з якімі сутыкнулася Украіна у выніку перадачы як грамадзян, я не магу сказаць".

Сітуацыя з мігрантамі з трэціх краін, якія трапілі ў ЕС праз Украіну, а пасля дэпартуюцца назад, таксама не напужала нашых суседзяў.

Наталля Навуменка: "На самой справе, сітуацыя абсалютна адэкватная: звычайна па дамове па рэадмісіі мы прымаем сваіх грамадзян, а прыняцце грамадзян трэціх краін дзейнічае толькі пры паскоранай рэадмісіі. А гэта толькі тыя, якіх злавілі ў 30-кіламетровай памежнай зоне. Гэта каля 80 чалавек за год – не так страшна, такія лічбы мы можам свабодна разглядаць".

Ваганні беларускага боку наконт падпісання дамовы па рэадмісіі з ЕС Наталля Навуменка тлумачыць адсутнасцю ў нас такой дамовы з Расеяй – каб можна было "чужых" нелегалаў высылаць далей.

**Паводле: euroradio.fm**

# АМЕРЫКАНСКІЯ АНАЛІТЫКІ: БЕЛАРУСЬ ІНТЭГРУЮЦЬ У 2015г.

**Амерыканскі аналітычны цэнтр «Стрэтфар» («Stratfor») аналізуе бліжэйшыя перспектывы дачыненняў Беларусі і Украіны з Расеяй.**

«Абедзьве дзяржавы супрацоўнічаюць з Масквой, але ўзровень іх супрацоўніцтва розны. Украіна разумее неабходнасць шчыльных сувязяў з Расеяй, але лавіруе паміж Расеяй і Захадам, каб атрымаць як мага больш выгод. Беларусь, якая з палітычных прычынаў у значнай ступені ізаляваная ад Захаду, з'яўляцца сябрам Мытнага звязу з Расеяй і Казахстанам і мае найбольш шанцаў быць уцягнутай у Еўразійскі Звяз», — гаворыцца ў аналізе «Stratfor».



Што да будучыні Беларусі, то аналітыкі цэнтру не бачаць для яе іншага выбару, як падпарадкоўвацца стратэгіі Расеі, якая зноў набывае моц.

«Гэта робіць абмежаванымі магчымасці Менску атрымліваць падтрымку з боку іншых дзяржаваў.

Такім чынам, Расея будзе працягваць інтэграваць Беларусь і рухацца да стварэння ў 2015 годзе Еўразійскага звязу», — робяць выснову амерыканскія аналітыкі.

Пасля правалу перамоваў Украіны з ЕЗ з-за зняволення былога прэм'ера Юліі Цімашэнкі, аслабленая і процівага Кіеву супраць Масквы, што паставіла краіну ў цяжкае становішча, перадае радыё «Свабода».




«Высокія цэны на расейскі газ вядуць да фінансавага крызісу, так што гэта толькі пытанне часу, калі Украіна вымушаная будзе даць Расеі кантроль альбо доступ да сваёй энергетычнай сістэмы ў абмен на паніжэнне цэнаў.

Гэта яшчэ больш аслабіць магчымасці манёўру для Кіеву і прывядзе да таго, што — хоча таго Украіна альбо не — яна будзе вымушаная ўрэшце рэшт улічваць расейскія інтарэсы», — заключаюць аналітыкі амерыканскага цэнтру «Stratfor».

**Паводле рух.by**

# Эксперт: У КРАІНУ, АД ЯКОЙ АДВЯРНУЎСЯ МВФ, ІНВЕСТЫЦЫІ НЕ ПОЙДУЦЬ

**Міжнародны валютны фонд згортвае актыўнае супрацоўніцтва з Беларуссю. Ці азначае гэта, што больш няма каму фінансаваць выхад краіны з эканамічнага тупіку?**




Прадстаўнік МВФ у Мінску Наталля Калядзіна завяршае сваю працу ў пачатку красавіка, а пытанне аб прызначэнні новага штатнага пастаяннага прадстаўніка ў Беларусі вырашыцца толькі ў тым выпадку, калі «*МВФ і Беларусь будуць блізкія да падпісання новай праграмы, што будзе падтрымліваццa Фондам*», адзначаецца ў прэс-рэлізе міжнароднай арганізацыі.

- МВФ таксама лічыць грошы і суадносіць выдаткі на ўтрыманне сваёй місіі і вынікі дзейнасці. Мабыць, вынікі МВФ не задавальняюць, - адзначае эканаміст **Леў Марголін**. - Дэ-факта мы яшчэ не выканалі тыя абавязацельствы, якія бралі на сябе разам з папярэднім крэдытам. Не вырашаны нават самыя простыя пытанні: па стварэнні ўрадавага агенцтва па фінансаванні, па ачыстцы банкаў ад дзяржаўных крэдытаў.

Эканаміст падкрэслівае: калі ў Беларусь паступаюць грошы з Расеі, кіраўніцтва краіны не ўспамінае пра Захад, пра МВФ, пра рынкавыя рэформы. Але як толькі грошы скончаюцца, адразу ж узнікае пытанне аб неабходнасці рынкавых рэформаў і прыцягненні Міжнароднага валютнага фонду.

- Але МВФ - гэта не проста арганізацыя. Гэта яшчэ і індыкатар для міжнародных інвестараў - казаць аб прыцягненні міжнародных інвестыцый у краіну, ад якой адвярнуўся МВФ, практычна бессэнсоўна. Нам будзе нялёгка, - лічыць Леў Марголін.

За апошнія тры года знешні дзярждоўг Беларусі вырас у 3,2 раза і на 1 студзеня 2012 года склаў 11,8 млрд. долараў. Выплаты па раней узятым запазычанняў Беларусі трэба будзе здзяйсняць з 2012 года - паводле інфармацыі Мінфіна, для ажыццяўлення абавязацельстваў Беларусі па знешняму дзяржаўнаму доўгу ў гэтым годзе неабходна 1,63 млрд. долараў. Асноўныя выдаткі прыпадаюць на пагашэнне і абслугоўванне крэдытаў МВФ (563 млн. долараў) і Венесуэлы (122 млн. долараў), а таксама аблігацый, размешчаных на расійскім і міжнародных фінансавых рынках (441 млн. долараў).

З кожным годам гэтым выплаты будуць толькі павялічвацца, а магчымасці для іх ажыццяўлення - памяншацца. Пік прыпадзе на 2013-2014 гадах, калі Беларусь павінна будзе выплаціць амаль 6 млрд. долараў па знешнім дзяржаўным доўгу.

- Я не бачу іншай крыніцы для правядзення гэтых выплат, акрамя як продажу маёмасці, прычым не заўсёды на выгадных умовах, бо ўсе выдатна разумеюць, што калі краіна знаходзіцца ў цяжкай сітуацыі, можна дыктаваць свае ўмовы, - падкрэслівае Леў Марголін. - Гаворка ўжо ідзе не пра тое, каб прадаць даражэй, а пра тое, каб хоць неяк прадаць і атрымаць хоць нейкія грошы. І зноў будуць надзеі на Расію і ЕўрАзЭС.

Палітолаг **Юрый Чавусаў** звяртае ўвагу, што Беларусь не выходзіць з МВФ, і адсутнасць кіраўніка прадстаўніцтва не азначае, што супрацоўніцтва Беларусі з Фондам спыняецца, піша «Заўтра тваёй краіны».

- Беларусь як удзельнік ААН у поўнай меры захоўвае ўсе магчымасці супрацоўніцтва з МВФ, - адзначае эксперт. - З іншага боку, скарачэнне кантактаў і зніжэнне ўзроўню ўзаемадзеяння, вядома, ставяць пад сумнеў перспектывы такога супрацоўніцтва для Беларусі.

Падобна да таго, міжнародныя фінансавыя інстытуты махнулі на Беларусь рукой і не лічаць, што ў бліжэйшы час беларуская эканоміка здольная рэфармавацца і стаць сучаснай.

- Казаць аб тым, што Беларусь з'яўляецца адказным удзельнікам сусветнай эканомікі, не прыходзіцца. Беларусь у эканамічным плане краіна не толькі бедная, але і адсталая, - адзначае палітолаг. - МВФ з'яўляўся магчымасцю прафінансаваць выхад з тупіку, але наша кіраўніцтва не ўсведамляе ўсіх перспектыў гэтай магчымасці і ўспрымае Фонд толькі як грашовы мяшок.

**Паводле pyx.by**

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА ЗАПАТРАБАВАНАЯ Ў СУЧАСНЫМ ГРАМАДСТВЕ

**Пра гэта заявіў 16 лютага дырэктар Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Аляксандр Лукашанец падчас круглага стала «Папулярызацыя беларускай мовы: сучаснасць і перспектывы», прымеркаванага да Міжнароднага дня роднай мовы 21 лютага.**

«Беларуская мова — адна з дзяржаўных у нашай краіне, аднак, нягледзячы на высокі заканадаўчы статус, існуюць праблемы з яе выкарыстаннем», — сказаў Аляксандр Лукашанец.

Ён асабліва адзначыў, што беларуская мова з'яўляецца высокаразвітай літаратурнай мовай, якая ў стане паспяхова абслугоўваць усе сферы жыцця грамадства.

Больш за тое, беларуская мова сёння пранікае ў тыя сферы, у якіх не была задзейнічаны раней, — інтэрнэт-камунікацыі і рэлігію.

«Гэта сведчыць пра тое, што яна рэальна запатрабаваная і мае тэндэнцыі да пашырэння ў выкарыстанні», — адзначыў Аляксандр Лукашанец.

Паводле яго слоў, у Інстытуце мовы і літаратуры падрыхтаваныя фундаментальныя працы, у якіх даецца сістэмнае, паслядоўнае апісанне беларускай мовы на ўсіх узроўнях, а таксама працы, якія забяспечваюць патрэбы сучаснай моўнай практыкі. Гэтыя даследаванні фактычна з'яўляюцца базай для навучальнай літаратуры ўсіх узроўняў адукацыі.

Акрамя таго, у інстытуце рыхтуюцца такія фундаментальныя працы, як, напрыклад, гістарычны зборнік і этымалагічны слоўнік беларускай мовы. «Яны забяспечваюць прэстыж беларускай мовы ва ўсім свеце», — перакананы дырэктар Інстытута мовы і літаратуры.

«Сёння ў краіне сфарміравана неабходная факталагічная база, якая дае магчымасць беларускай мове як дзяржаўнай займаць належнае месца ва ўсіх сферах жыцця грамадства», — рэзюмаваў Лукашанец.



**Паводле: nn.by, на фота: А. Лукашанец**

EUROКЛУБ ДАДАТАК ДА ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНАГА БЮЛЕТЭНЯ "ДЗЕДЗІЧ"
• **Заснавальнік:** ініцыятыўная група моладзі
• **Распаўсюджваецца бясплатна**
• **Падпісана ў друк** 21.02.2012 года у 18-00
• **Папера** афсетная, фармат А4, 0,5 ул.-друк. аркуша,
• **Гарнітура** Helios
• Надрукавана на памнажальнай тэхніцы сябраў рэдакцыі
**Галоўны рэдактар:** Дзмітрый ШЫМАНСКІ.
**Рэдакцыйная калегія:** Ю. Агіевіч, П. Белавус, П. Дайлід, Д. Турчаняк,
**Адказны за выпуск:** Стэфанія Малюта.
• **Кантактныя тэлефоны: (029) 660-57-41, (029) 724-21-16.**
• **E-mail:** dzedzich@dzedzich.org. **Інтэрнэт:** www.dzedzich.org
• Пры выкарыстанні матэрыялаў бюлетэня спасылкі на крыніцу абавязковыя
• Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў і друкаваць артыкулы для далейшай палемікі
• **Наклад** 299 асобнікаў